Сёння ў нумары: Санацыйнае «права» да асветы · Літаратурная старонка · Лён дзе і пасля чаго?


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 14 (475) | ГОД X | 4 КРАСАВІКА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.


**Уваходзім у перыяд чарговай выбарчай кампаніі ў Сейм і рады нарадовыя.**

**У ходзе гэтай кампаніі наша партыя, Аб'яднанае Стронніцтва людовае, Стронніцтва дэмакратычнае — усе сілы сацыялістычнай дэмакратыі, згуртаваныя ў Фронце адзінства народу, здадуць справу перад грамадствам з таго, як была выканапа выбарчая праграма 1961 года ў маштабе дзяржавы і ў маштабе кожнага ваяводства, павета, горада, грамады, а таксама прадставяць выбаршчыкам праграму дзейнасці на будучыню.**

(З даклада Палітычнага Бюро на III Пленуме КЦ ПАРП).





В. Рудчык: ЛЕС НАРАЎКІ (II ч.)

Ул. Паўлючук: РЭАЛІЗАЦЫЯ ПРАВА ДА АСВЕТЫ Ў НАРОДНАЙ ПОЛЬШЧЫ.

П. Юр'еў: РУСКІЯ ў ПОЛЬШЧЫ.

С. Фальтын: ЛЁН — ДОГЛЯД ГЛЕБЫ.

Лямай: ДЫСКУСІЯ ЦІ ЛАЯНКА.


## ЛЁС НАРАЎКІ

*Беласточчына ў люстэрку*

### 1. Руда на Нарвії

У кожнай вёскі, у кожнага мястэчка, як у чалавека, свая дарога, свой лёс.

Які лёс у Нараўкі, якая яе дарога?

У пасляваенных урадавых адміністрацыйных спісках Нараўка лічыцца звычайнай вёскай. Не толькі, зрэшты, Нараўка. Час і права зраўнялі да ўзроўню вёсак Нарву, Кляшчэлі, Міхалова, Гарадок, Крынкі, Мілейчыцы і многія другія гэтага роду мясцовасці Беластоцкага ваяводства. Толькі ў старых геаграфічных слоўніках і даваенных энцыклапедыях Нараўку называюць мястэчкам. Яе гісторыю знатакі аблічваюць на звыш 300 гадоў. Мабыць яшчэ перад 1639 годам пасяліўся тут нейкі **Выдра**. Прываблены сюды шукаючы балотнай жалезнай руды. Разам з ім прыбылі над раку Нараўку яго знаёмыя спецыялісты ад дабычы і переапрацоўкі балотнай руды на жалеза. Сялібу рудніка Выдры гісторыкі называюць **«Рудай на Нарвії».**

Усю навакольную тэрыторыю, вядома, займаў тады дрымучы лес, а зямля была прыватнай уласнасцю рускіх дваран з роду Масальскіх, якія ў сваю чаргу атрымалі гэтую тэрыторыю як падарунак ад вялікіх літоўскіх князёў.

Рака Нараўка, хаця невялікая і не вельмі прыгодная да плавання, сваім рэчышчам перасякала непраходны лес, стваруючы такім чынам натуральны транспартны шлях, асабліва для вывазкі тавараў з Белавежскай пушчы. Гэта садзейнічала развіццю «Руды на Нарвії» і другіх навакольных вёсак.

На старым праваслаўна-каталіцкім могільніку да сённяшніх дзён захаваліся грабавыя памятнікі спрад 100—150 гадоў. Вядома, напрыклад, што ў 1870 годзе Нараўка залічвалася ўжо да ліку буйнейшых пасёлкаў цяперашняй Гайнаўшчыны. На гэты год прыпадае пасвяшчэнне Нараўскай царквы. Відаць, нараўчане не прыналежылі да бедных, калі зафундавалі сабе прыгожую мураваную царкву. З яе пабудовай звязаны выпадак, які ясна даказвае, што многія людзі ўжо сто год таму назад не сароміліся браць хабару. Адначасна з нараўкоўскай будавалася царква ў Навасадах. Вось жыхары навасадаўскага прыхода добра «падмазалі» загадчыку будовы і той



— У гадах майго дзяцінства, —успамінае 91 гадовы дзядуля Трафім Крук, — Нараўка мела толькі адну вуліцу.

Вядома, не было тады яшчэ стаўбоў электраліній ні муравапай крамы, якую бачым на здымку з правага боку.

(Працяг на стар. 4)

## І ТАК І НЕ

Мая размова з настаўнікамі школы ў Рыбаках, Беластоцкі павет, пачалася так, як дзесяткі другіх размоў з другімі настаўнікамі ў другіх школах. Гаварылі мы аб падпісцы «Нівы» ў старэйшых класах. На 27 вучняў у VI і VII класах 18 выпісвае «Ніву». Гэта многа ці мала?

І так, і не. Мала, калі ўлічыць той факт, што тут штотыдзень адзін урок беларускай мовы адбываецца спецыяльна на матэрыялах «Зоркі», бясплатнага дадатка «Нівы».

Нагаварыўшыся ўволю аб перспектывах падпіскі «Нівы» і продажу «Беларускага Календара» задумаліся мы над справамі, дакладней, праявамі бытавога жыцця-быцця. Рыбакі, нарэшце, дачакаліся электрыфікацыі і электрычных лямпачак — перад Новым годам. Не паспелі пацешыцца імі, як пачуліся галасы: — Трэба нам мець тэлевізар.., давайце тэлевізар будзем мець.

І ўжо маюць.

Стаіць ён у школе, у найбольшым класе. Зграбны, эстэтычны «Караль» з экранам на 17 цаляў. Штовечар валіў сюды народ глядзець тэлевізійную праграму — прыходзілі нават з далёкіх хутароў. Збіралася па 100 альбо 150 асоб, рыбакоўцы з'яўляліся першымі, яшчэ за дня, каб заняць лепшыя месцы. «Караль» не меў перадышкі, працаваў ад змроку да поўначы, а надзеямі ад самога ранку. Аж у астатнюю нядзелю сапсаваўся ён. Здавалася, на маладых нападзе жалоба, папруць чым хутчэй лячыць прыхварэўшага «Караля» — тым больш, што гэтае лячэнне нічога не каштуе ў гарантыйным тэрміне. Але так не сталася. Як не дзіўна, шчырае спачуванне і помач «Каралю» аказалі старэйшыя, сіваволосыя.

Няўжо яшчэ адна загадка, так званай сучаснай вясковай моладзі?

Магчыма, што тут ніякая загадка, але звычайная гультаяватасць. Тады як растлумачыць той факт, што мясцовыя дзяўчаты і хлопцы стварылі аматарскі гурток, далі ў школе пастаноўку п'есы «Дзяўчынка Біз», наладзілі вечарыну, за зароблены грошы купілі заслону, за якую заплацілі больш 1 000 злотых, а ўвесну збудавалі чынам бетонавую танцавальную пляцоўку на месцы драўлянай. Праўда, захацелі забавы, разрыўкі. Значыць, тэлевізар хіба не разрыўка...

Мо' і так яно, хто яго ведае?

Зрэшты, важнае тое, што тэлевізар будзе паладжаны, а моладзь рыхтуе дадатковую атракцыю — пастаноўку п'есы «Паўлінка» Янкі Купалы. Пакуль што слаба рыхтуе яе, але на Вялікдзень, пэўна, будзе ўсё гатова і адбудзецца цікавае «прадстаўленне».

(Працяг на стар. 5)



НАД ВАДОЮ.

Фота: Паўлючук

# БЕЛАВЕЖА

орган літаратурна-мастацкага
АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 76


**Яша Бурш**

## ЖАРТ ДОЛІ

Доля зажартавала
з мае пералётнасці
на свеце

Чалавек
у агранічэння імправізацыі
робіць сабою натоўп
ля брамы захаплення
дзе нельга
дачакацца
на аб'яўленую арыгінальнасць

## СЛЯДЫ ПАМЯЦІ

На даўжыні памяці
дасведчанне
абручом
як на рагах каровы

даўжыня памяці
у эліпс позірку
канцы перарываных свядомасцей
Курынымі лапкамі
з куткоў вачэй —
прысохлі на твары
ці зараз паможа
намазванне

**Уладзімір Гайдук**

## ЧАКАННЕ

Буслінае гняздо
Нырнула ў хмары
Тры верабейчыкі
Наперамену чырыкаюць
Прыдзе госця
Вячэрні звон
Сняжынкай растаў у далонях
Ціха
Прыдзе
Не прыдзе

## ЯШУ БУРШУ

разгадай песню пушчы
яе шум урачысты
з ветрам кожнае дрэва гамоніць
для сябе зразумелай мовай

ты ўсё чуеш
душою
неабдымнай свабоднай
твары песню
якою
захапіць усіх зможаш

**Алесь Барскі**

## ВЯСНА

У раллю магу кінуць зерні
і цягнуцца да сонца
калоссямі пальцаў.
Накарміць салаўём сваю песню
і лісцём закіпець на хвіліну у ветры
і выкінуць з сэрца ў глебу
усе гадавыя цяжары
усе гадавыя надзеі
самога сябе палажыць
пад скібу
каб вырасці калівам жыта.

★

Паднятыя з дарог каменні
я кіну у сябе самога
мо у зерні зла яны ударацць
засыплюць іх халоднай крушняй
бо лепш насіць ў душы каменні
чым ружы злога крывадушша
Збяру каменні па дарогах
укіну у сябе самога.



# ЗДАРЭННЕ Ў САКОЛЬСКІМ ПАВЕЦЕ

П'яніца ён, ці не п'яніца, а жыць трэба. Так гаварыла цёшча, і Галя ўхапілася за цёшчыны словы. Яны супакойвалі нервы, прынамсі, магла прымусіць сябе да яды. Выпіла шклянку малака, прыкусіла хлебам з маслам і хілком выйшла з хаты. Накіравалася да пункту аховы здароўя, дзе працавала.

У прыёмнай плакат: АЛКАГАЛІЗМ — ВОРАГ ЧАЛАВЕЦТВА, над літарамі выцвіўшыя вочы страхотнага мужчыны з паўлітрам і шклянкаю...

Плакат псаваў настрой. Потым, калі пачынаўся прыём хворых, Галя забывалася аб усім.

Праз прыадчыненыя дзверы канцылярыі пачуўся голас лекара. Гаварыў па тэлефону.

— Хіба сам буду ляпіць тынкі!?

Галя зразумела, што ідзе размова наконт рамонту. Ёй хацелася павярнуцца і выбегчы на дзядзінец, перачакаць.

— Кажаце, грамадская рада павінна дабівацца? Дайце грошы на фунды, а я ўжо дагаваруся са старшынёю рады, ён за чарку гатоў вош да Варшавы гнаць, — лекар засмяяўся.

Галя ўздрыганула ад яго смеху: ён смяяўся з яе мужа, які з'ўляецца старшынёю грамадскай рады.

Не раз гаварылі аб рамонце. Муж бажыўся, што заўтра ўжо напэўна паедзе да павятовага будаўнічага прадрыемства, каб прысяпшыць планавы рамонт пункту аховы здароўя. Ездзіў, варочаўся п'яным.

Аднак Галя ніколі не чула, каб лекар падсмейваў. Застыла пасярод калідора, крыху павернутая бокам, акамянелая. Здалося, нават пануры калідор хмыкнуў, пасвятлеў. Расчыніліся дзверы, паказалася фігура лекара. Ён няспешна прайшоў, кінуўшы ветлівае прывітанне.

— Дзень добры, пані.

Глядзела ўслед за ім пацямнелымі вачыма; паўстрымалася, каб не закрычаць з цэлай сілы — падлюга, падлюга!!!

У пачакальні яшчэ пуста. Хворыя прыходзяць, звычайна, каля палова дзевятай. Галя зайшла да сябе, у рэгістрацыйны пакой. Абвяла позіркам шуфлядкі. У іх дакладна падзеленыя дзесяткі, сотні людзей — гісторыі хвароб. Калі глядзела на першую шуфлядку, прыпомніўся прэзас ГС, які прыходзіў з болем галавы, моднай мігрэнаю. Гэты чалавек лічыў сябе інтэлігентам, насіўся са сваёю далікатнасцю і рабіў выгляд, як бы нічога не ведае, што чаўпе муж. Таксама — лекар, аптэкар, акушэрка, настаўнік, ветэрынар, бухгалтар, электраманцёр. Другая шуфлядка адразу нагадвала паморшчаны, бы вараная груша, твар Настусі. Яе мучыў раматус і яна многа гаварыла аб тым, што круцяць ногі — не даюць спаць. Пасля Настуся заводзіла гутарку пра п'яніц і распуснікаў ды спачувала нешчаслівым жонкам. Галя слухала цёткі Настусі, Золькі, Вікці, Карусі, Ольгі, Палосі і другіх цётак. Трэцюю шуфлядку — з патрэсканаю фарбаю — Галя неахвотна выймала. Знаходзілася ў ёй тоўстая дакументацыя садоўніка Афанаса, які хварэў катарам страўніка. Па яго скамечаным абліччы агідна скакалі лісліўвыя, прычэплівыя вочы. Прыходзіў даволі часта, іншы раз з падарункам — яблык, сліў, часамі мёду альбо варэння — найчасцей, назаўтра пасля таго, як муж варочаўся п'яным ад Афанасавай гарэлкі. Пакунак стаўляў нібы непрыкметна, за вазончыкам на стале. Наракаў на падаткі і хваліў добрае сэрца мужа. Хваліў Афанас, а таксама багаты Сяргей і Казік — дэнатуршчык, які патаемна вырабляе аўчынкі; кіраўнік гасподы Ёзік і касір Лёнік, якога пазаўчора забралі міліцыя. Будзе суд...

Галя зненавідзела шуфлядкі. У іх таілася маўчанне або спачувальны шэпт, або хітрасць, хцівасць і насмешлівы рогат... Шуфлядкі абыякавы да Галінага гора.

• ✲ •

Лекар увесь дзень быў яўна не ў настроі. Калі а другой гадзіне закончыў ён прыём і выйшаў. Галя з'явілася ў грамадскай радзе, чаго раней ніколі не рабіла — баялася людскіх вачэй.

На парозе перапыніў яе сторож — інвалід.

— Не заходзьце туды. Там нарада, з Саколкі прыехалі...

І, утаропіўшыся ў легкавую машыну перад будынкам, сказаў:

— Выкідаюць вашага з партыі і старшыні. Эт, глупства... Мае гаспадарку, будзе жыць.

Адпіхнула яго і паволі пайшла, затрымалася каля кабінета. Дрыжачаю рукою націснула клямку і адчыніла наўсцяж. У куце сядзеў згорблены муж, глянуў на Галю і вінавата апусціў галаву. За сталом прыглядалася да яе двох незнаёмых. Запанавала маўчанне.

Галя заплакала.

Слёзы цяклі па шчоках, шыі, грудзях. Стаяла агорнутая прылівам кахання да свайго мужа. Дзіўнага кахання. Паявілася яно так нечакана, як парасткі вярбы на парахне кінутым у балота. **САКРАТ ЯНОВІЧ**

**Р. Казберук**

## Закалыханы прамень

быў
мо' цэнтрабежнаю сілай
можа паралеллю зорак
пакуль
у зямным прыцяжэнні
на вуснах дзеткі не спачыў
і дасюль спіць
на фатаграфіі ў здзіўленні час

збеларушчыў **Я. Бурш**



# Дзяўчына

**«Адгэтуль будзе — было»**

**Сябрам**

Лісток паперы — даўні ўспамін аб Антосю. З-за яго Інчыны хваляванні, туга і нявыказаны жаль. Яе думкі, што цяжарам ляглі на сэрца, трывалыя да болю. Ім не спапяліцца, як таму лістку паперы на агні. Ім няма гаючай ласкі, ранейшых слоў, той весялосці і веры ў шчасце, у трываласць усяго на свеце. У сэрца западзе, што пароша ў вока, самаўнушэнне малавартасці з-за ростані. Кахання лёс жабрачы. І яно мае свой канец. Найбольш пякуча, што ўсё прыгожае канула ў беззваротнае мінулае, парвалася ў чаканні часу. Яму не быць як раней. Болю пякучага, што сыпле зёрны злашчаснай здрады, не суняць. Грызе, што асадак патыны, душу. І калі восень гоніць думкі за сабою, карункай зіхаціць на сонцы павуціннe, прыходзіць пара журбы, пара ростані з нечым дарагім, мімалётным, незабыўным. «Бабінае лета». На Інчыны вусны, як закляцце, лёг смутак чакання. Яна чакае, няведама чаму, прытуліўшыся да цёплых успамінаў, яго павароту. Усё нібыта нядаўняе і непагаслае ўражанне мінулых дзён. Мары, што горыч з-за салодкай прываблівай тайны, загадкі жыцця, заслоны ружовай смугі і таямнічай невядомасці. Ці ў светлым і чыстым дзявочым каханні ёсць межы канчатковасці?...

Стрэчы шчырыя, безадказныя і памятныя, як цішыня гарадскіх паркаў у восеньскім знямення, як шапаценне пабурэлага лісця кляновага, як засмужаныя далі, што засмучоныя лазнякі ў люстэрку ракі, як дарагі позірк повен пяшчотнасці і журбы на развітальнай ростані на досвецці. Як апошні дотык халаднаватых рук на золку, калі вецер у прамёрзлым вецці бяроз грыміць пявучыя кадрыллі, а разгубленыя вусны шукаюць цябе. Ці забыў ты аб гэтым, Антось? — Мой мілы, як неўміручы наш апошні вальс і зала звінячай цішынёй, а мы на адзіноце, удваіх. Твае летуценныя, цёмнаблакітныя вочы напамінаюць мне ўсмешку веснавой паводкі, хаваюць здагадкі, як сінеч і бездань ашаламляючай глыбіні.

Мы з табой хадзілі ў бясхмарны мароз, у ранне, і калі сыплецца іней, і калі шэпчуцца ліўні і ветразь зялёны. Ты пачаў у сны мае ўрывацца і вабіць мяне за сабою. Зачароўвала нас мелодыя Глінкі з-пад дрыготкіх пальцаў тваіх. Дзе б ты не быў, Антось, мае лепшыя словы і вусны, і мае дні, і маю радасць хаваю табе. І сёння зараз чую твой настойлівы позірк на сабе, на вуснах, што былі твае, і ўсмешку, што шчаслівай кветкай васільком цешыць узмежак. Сёння яны абыякавы, нібы звернуты ў небыццё. — Чаму, Антось?... Вярні іх!... Я з-за таго, як бязмежны прастор мора, а думкі набягаюць у галаву, як хвалі на бераг. Адны з іх гасяць цеплыню жвірыстага пляжа. І ад таго сумна і радасна. Радасна, што ты знаходзішся вось тут, побач у гэтым кіпучым, цудоўным і вечным жыцці. Доўга памятае аб хлопцу дзяўчына, чакае... Што ёй нясе з сабой пеністая марская хваля?... Колькі ж іх у моры, як сцежак вяртання ў маладосць... І калі восень шастае лістом, хавае ад сцюжы ў сэрцы даўні ўспамін дзяўчына. Для памяці. **ЯНКА ЦЯЛУШЭЦКІ**



# Лёс Нараўкі

(Працяг са стар. 1)

звычайна пераставіў назвы мясцовасцей на планах, у выніку чаго царква, прызначаная для Нараўкі, пабудавана была ў Навасадах. Гэтага факту па сённяшні дзень нараўчане не могуць забыць, абураюцца на хітрых навасадаўцаў.

У намесніка старшыні прэзідыума ПРН у Гайнаўцы таварыша Шпаковіча знаходзіцца даволі падрабязная манаграфія Гайнаўшчыны, на жаль, аўтар манаграфіі невядомы і гэта змяншае яе вартасць як даследчай крыніцы. Паводле гэтага ананімнага аўтара, Нараўка ў пазнейшых гадах з'яўлялася ўласнасцю нейкага царскага губернатара, які меў тут свой маёнтак. Гэтыя паказанні ў нейкім сэнсе пацвярджае найстарэйшы жыхар Нараўкі, дзядуля **Трафім Крук.**

— З таго, што мне бацька пакойны апавядаў і з таго, што ў маёй памяці захавалася, — гаворыць ён, — магу сказаць, што ў Нараўцы быў маёнтак Губерскіх.

Нараўка разбудавалася пазней. Перш за ўсё дзякуючы добрым заработкам у гуце шкла, якая існавала тут доўгі час.

Гута шкла. Дзядзька Крук не быў першым сярод шматлікіх жыхароў Нараўкі, якія з жалем яе ўспамінаюць.

Тады Нараўка была нават мястэчкам! І сапраўды гэта для Нараўкі справа істотная. Трэба тады прыгледзіцца ёй больш дакладна, што зробім наступным разам. Цяпер паставім пытанне: з чаго жылі жыхары Нараўкі, якія не змаглі атрымаць працы ў гуце шкла? Зноў вернемся да ўспамінаў жыхароў і да манаграфіі ананімнага аўтара. З гэтых паказанняў вынікае, што ў міжваенны перыяд (апрача гуты) у Нараўцы знаходзіліся тры млыны (адзін вадзяны), невялікі тартак (існаваў коратка) і прыватная майстэрня для вырабу чырвонай чарапіцы. Чарапіца гэта славілася далёка за межамі мястэчка сваёй высокай якасцю. Гавораць, што звінела, бы сталь.

У 1907 годзе пракладзена тут жалезную дарогу Седльцы — Валкавыск. Чыгунка аднак абмінула Нараўку ў адлегласці да чатырох кіламетраў і значнейшага ўплыву на яе развіццё не мела. Толькі яшчэ больш інтэнсіўна пачалі рэзаць і вывозіць стары пушчанскі лес. Гэта садзейнічала ўзнікненню надлясніцтваў Свінарое і Броўск, а людзям давала дадатковы даход з працы ў лесе. Праца пераважна была сезонная і гадзіліся на яе гэтыя жыхары Нараўкі, якія адначасова займаліся хлебаробніцтвам. Але таксама шукалі тут заработку людзі з усёй Польшчы.

Зароблены грошы нараўчане маглі пусціць у 9 рэстаранах, якія існавалі да вайны ў Нараўцы. Тут канцэнтравалася ўсё «культурнае» жыццё мястэчка.

У 1939 годдзе Нараўка налічвала каля 1800 жыхароў трох нацыянальнасцей: беларусаў, яўрэяў і палякаў. У час акупацыі гітлераўцы падверглі жыхароў Нараўкі суровым праследванням. Яўрэяў (каля 600 чалавек) часткова расстралялі на месцы (15. 08. 1942 г.), а рэшту адправілі былі ў беластоцкае гетта, дзе сустрэў іх вядомы лёс. Не многа менш цярпелі беларусы і палякі. Актыўна садзейнічаў гэтаму мясцовы бурмістр Станіслаў Салавей, які штораз заносіў у гестапа спіскі «неблаганадзейных» жыхароў Нараўкі. Паводле гэтых спіскаў немцы вывозілі цэлыя сем'і на прымусовыя работы ў Германію.

Неспакойна тут было таксама ў першыя гады пасля вайны. Насельніцтва тэрарызавала банда «Лупашкі».

Народную ўладу ўстанаўлялі ў Нараўцы таварышы: **Язэп Трусевіч, Аляксандр Саланевіч, Іван Ляшчынскі, Уладзімір Харкевіч, Матвей Янюк, Андрэй Трусевіч, Аляксандр Валкавыцкі, Нікодзій Карпюк, Пётр Кабац, Андрэй Артэмюк** і ваенны камендант мястэчка, капітан Савецкай Арміі **Аляксандр Дубінін.** Кроў і жыццё некаторых таварышоў была цэментам для будовы гэтай улады. Іх прозвішчы ўвекавечаны на скромным помніку, які жыхары Нараўкі паставілі ў цэнтры свайго пасёлка.

Вось якая дарога ад «Руды на Нарвіі» да цяперашняй Нараўкі.

**ВІКТАР РУДЧЫК**
фота аўтара



**Царква, пабудаваная ў 1870 годзе.**



**Гэты помнік увекавечвае прозвішчы: Паўла, Мікалая, Паўла Стульгісаў, Паўла Красноўскага, Аляксандра Чарнецкага, Паўла Лапінскага, якіх 8 жніўня 1941 года замардавалі гітлераўскія акупанты, і прозвішчы: Аляксандра Валкавыцкага, Яна Ляшчынскага, Яна Еляневіча, Пятра Кабаца, Уладзіміра Трусевіча і Мікалая Леўша, якія загінулі 17 красавіка 1945 года ад бандыцкіх куль.**

**Помнік са складчын насельніцтва грамады Нараўка ўстаноўлены ў 1950 годзе.**

# Лён - дзе і пасля чаго?

Каб дабіцца высокіх ураджаяў ільну, трэба звярнуць асаблівую ўвагу на дзве рэчы: уласцівы выбар глебы і адпаведнае ўгнаенне яе.

Адно і другое трактуем даволі абыякава, сеем лён на горшых глебах, а справай адпаведнага ўгнаення глебы пад лён амаль увогуле не пераймаемся. Таму не дзіўна, што атрымоўваем, так нізкія ўраджаі льну, у сярэднім — 30 да 40 цэнтнераў з аднаго гектара. Высокія ўраджаі ў некаторых плантатараў з'яўляюцца найчасцей у выніку пасеву ільну на добрай глебе альбо пры спрыяльнай пагодзе. Але, каб гэтакія ўраджаі паўтарыць і ўтрымаць на практыцы неабходна дакладна ведаць патрэбы ільну адносна глебы і ўгнаення яе.

Пад лён добрымі з'яўляюцца глініста-пясчаныя, пясчана-глінiстыя і другія лёгкія глебы, якія захоўваюць ваду і ствараюць адпаведныя ўмовы для хуткага развіцця расліны. Пад лён непрыдатныя заліўныя гліністыя глебы, якія робяцца закарузлымі — і хутка прасыхаючыя пяскі. Таксама непрыдатныя пад лён глебы з вялікім перагноем, на якіх ён хутка збуяе і вылягае. Лён не ўдаецца на падмоклых глебах.

Лён з'яўляецца тыповай раслінаю сярэдняга клімату. Асабліва спрыяльныя яму тыя аколіцы, дзе большыя ападкі, высокая вільготнасць паветра і меншая сонечнасць. Лён не патрабуе асаблівай цеплыні. У тэмпературы чатырох градусаў лён ужо пускае парасткі, а добра расце пры 8—10 градусах цяпла. Устойлівы ў час прымаразкаў, вытрымоўвае кароткія прымаразкі нават да —7 градусаў. Тады лён часова не расце, што потым не мае істотнага ўплыву на яго ўраджай.

Вельмі высокія тэмпературы звыш 20 градусаў тармозяць рост ільну, асабліва, калі ён ужо цвіце. У такіх выпадках трэба спадзявацца горшага валакна.

Лён — гэта расліна доўгага дня. Спачатку патрэбны яму карацейшы дзень вясны, менш святла і цяпла. Аднак, калі ён зацвіце і пачынае спець, патрэбны яму доўгія летнія дні. Таму надзвычай важным з'яўляецца ранні пасеў ільну.

У час свайго росту лён патрабуе шмат вільгаці. Таму, апрача адпаведна вільготнай глебы, асабліва значэнне мае праполка.

*

Пераважна лічаць, што найляпей сеяць лён пасля прапашных раслін (бульбы, буракоў). Трэба, аднак, памятаць, што пасля гэтых раслін у глебе застаецца мала калію (патасу), а ўнесены гной спрыяе росту вялікай колькасці лебяды ў ільне. Хімічная праполка з'яўляецца неабходнай.

У некаторых аколіцах лічаць, што найлепш сеяць лён пасля канюшыны альбо канюшыны з травою. Аднак жа канюшына пакідае ў глебе надта многа азоту, а слабая канюшына пакідае шмат пустазелля. Лепшай ёсць глеба пасля люцэрны, усё ж такі і люцэрна таксама пакідае ў глебе празмерна многа азоту.

Вельмі добра расце лён на шматгадовых аблагах альбо на, так званай, навіне — нанава загаспадараваных землях (былых пашах і т. п.). Тады часта няма пустазелля і непатрэбна ніякая праполка. Добра ўдаецца лён і пасля рапсу (рапаку) або пасля канаплёў. Важнае тое, што пасля канаплёў няма так многа пустазелля або цалкам яго няма. На ўраджайных і добра дагледжаных глебах можна пасеяць лён пасля ўдачлівага жыта ці аўса.

На адным месцы не можна сеяць ільну часцей, чымсьці раз у шэсць — сем год. Звычайна, не ўдаецца лён пасля гароху або лубіну.

Часамі сеюць лён пасля азімых кармавых культур, пасля ранняй бульбы (скараспейкі) або пасля першага пракосу канюшыны. Аднак ураджай такога ільну будзе заўсёды слабы, мала ў ім валакна з увагі, перад усім, на позны пасеў яго.

Пасля ільну вельмі добра растуць другія расліны. Яго ўборка адбываецца шмат раней, чым другіх раслін, і таму ёсць час добра дагледзець гэту зямлю.

**СТАНІСЛАЎ ФАЛЬТЫН**
**— старшы інспектар Польскага аб'яднання плантатараў валакністых раслін у Беластоку.**

*Фальклор*

# Чаму ён піў да апошняй кроплі

У адной жанчыны быў муж п'яніца. Піў усё, што папала: віно, гарэлку, самагон. Мала таго, у яго была дрэнная звычка. п'е заўсёды да дна, а пасля аблізвае вусы, каб ні адна кропля не прапала.

Жонка старалася адвучыць яго ад гэтай звычкі. Прасіла, маліла, каб перастаў гэта рабіць.

— Ты ж гэтым знеслаўляешся, — угаварвала яна. — Іншыя таксама п'юць, ды памалу, не так прагна, як ты.

Але ўсё было дарэмна. Муж як піў, так і п'е.

Тады яна пайшла на хітрасць. Купіла на рынку прыгожы кілішак, на дне якога памаляваны быў анёлак з залатымі крыламі і блакітнымі вачыма. Наліла ў гэты кілішак віна і дала выпіць свайму мужу. Ён паглядзеў на кілішак, убачыў на дне анёла, усміхнуўся і, адным залпам асушыўшы пасудзіну, пачаў аблізваць кроплі віна, якія засталіся на вусах.

— Ах ты горкі п'яніца! — крыкнула жонка. — У сваёй прагнасці ты нават не саромішся божага анёлка! Як ты п'еш?!

— Ведаеш, — азваўся муж, — калі я ўбачыў у кілішку таго анёлка, мне стала шкада яго, каб ён не ўтапіўся ў гэтым віне. Таму я так хутка выпіў.

Пасля некалькіх дзён жонка зноў купіла кілішак. Гэтым разам на дне кілішка быў намаляваны страшны, брыдзёзны чорт: з хвастом і вылупленымі вачыма. Як і за першым разам, наліла ў кілішак віна і дала мужу выпіць. Той паглядзеў, усміхнуўся і адным залпам асушыў кілішак.

— Нягоднік, — крыкнула жонка, — ты нават і чорта не баішся!

— Ведаеш, — азваўся муж, — я не хацеў гэтаму рагатаму паганцу пакінуць ні кроплі, таму так хутка выпіў. Нічога яму не пакіну, калі ў горле суха.

Нездарма людзі кажуць: воўк лiняе, а звычкі не мяняе.

**ЛЮБА ПАНФІЛЮК**
**Дубічы Царкоўныя**
**Гайнаўскі павет**

# І ТАК і НЕ

(Працяг са стар. 1)

Тым часам, у рыбакоўскай аколіцы думаюць аб нечым значна больш істотным: як пашырыць школу і дабудаваць яшчэ два лекцыйныя памяшканні? Хтосьці, няйначай, для жарту запрапанаваў перагарадзіць той прасторны клас, дзе стаіць тэлевізар, але ўсе закрычалі, заглушылі яго. Не можна! Гэты клас патрэбны, у ім выступае нават «Лявоніха», а таксама паказваюць прывазныя фільмы...

Праз год школа ў Рыбаках будзе васьмікласнай, а ў ёй не менш чым 120 вучняў адусюль, нават з Боўтрыкаў, дзе застанецца толькі чатырохкласная школа. Аванс рыбакоўскай школы патрабуе, каб яна выглядала прыгажэй. У першую чаргу неабходны ёй салідны рамонцік, ну, і, вядомая рэч, прыемная драцяная агарожа, якую абяцаюць даўным-даўно. Аднак, перад усім неабходны дадатковыя лекцыйныя памяшканні. І тут павінны ўсе разам дапамагчы школе, дапамагчы чынам: выкапка і будова фундаментаў, прывоз будаўнічых матэрыялаў, бясплатная дапамога ў час фаховых работ, а калі спатрэбіцца то і дапамога грашыма. Настаўнікі ў Рыбаках пераконаны, што людзі, бацькі вучняў, дапамогуць ва ўсім, у чым трэба будзе — не адмовіцца ніхто. І гэта прыемна было пачуць. (ся)

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ЦІ АБАВЯЗКОВА АВЁС?

Беластоцкія сяляне вельмі любяць гадаваць коней. Першынство трымае Сакольскі павет, які мае нават уласную пароду. У эру механізацыі сельскай гаспадаркі гэтая парода коней усё больш падабаецца пакупнікам у краіне і за граніцай. А калі ўжо коні, дык вядома, і авёс, які дае ім сілу і добры гумар.

У нашым ваяводстве авёс займае другое месца пасля жыта. Сеем яго каля 130 тысяч гактараў, у той час, калі ячмень займае 25 тысяч гектараў.

Хоць столькі гаворыцца аб тым, што растуць лепей за жыта і авёс, пшаніца і ячмень, але нічога не змяняецца. Што ж, традыцыя і патрэба падрыхтаваць «аброк» для каня, бо як жа конь можа застацца без аўса! Гонар не дазваляе, каб конь не выглядаў «на высокі полыск».

У гэтым годзе становішча трошкі горшае. У выніку мінулагодняй сушы некаторыя гаспадаркі, асабліва ў Сакольскім і Дамброўскім паветах, не маюць насення. Дзяржава прадугледзела для іх дапамогу. Сяляне атрымаюць пшаніцу і ячмень.

Нягледзячы на вялікія намаганні, у ваяводстве і за яго межамі не ўдалося дастаць аўса. Прадстаўнікі гандлю прапануюць замест аўса даць больш ячменю. Але да гэтага часу паступілі заяўкі толькі на 800 тон ячменю, а дзяржава можа даць больш 3 тыс. тон. Многія сяляне ўсё яшчэ чакаюць аўса. І з-за гэтага могуць наогул застацца без насення.

Варта падумаць аб магчымасцях замены аўса на ячмень. Вядома, у кожнай гаспадарцы гэта не ўдасца зрабіць. Ячмень патрабуе лепшай глебы, догляду і ўгнаення. Найлепш ячмень расце пасля прапашных. З мінеральнага ўгнаення даем 120—200 кг суперфасфату і каля 100 кг калійнай солі. Калі глеба слабейшая, даем яшчэ 50—120 кг азатняку і, калі вегатацыя праходзіць не зусім нармальна, 50—70 кг вапеннай салетры.

Авёс добра расце і на горшых глебах. Найлепшыя для яго ўчасткі пасля прапашных, але пераважна сеюць яго пасля збожжавых, як апошнюю расліну ў севазвароце. Нельга сеяць авёс некалькі разоў запар, а таксама пасля ячменю. Авёс добра расце і на кіслых глебах, а ячмень трэба высяваць на вапнаваных глебах. Ячмень належыць да раслін, якія любяць шчолачныя глебы.

Калі ёсць у нашай гаспадарцы такія глебы, трэба не задумваючыся купіць ячменнае зерне і засеяць. У звычайных умовах ячмень дае значна вышэйшыя ўраджаі, чым авёс. Ячмень лепш пераносіць сушу. Прыкладам можа быць мінулы год, калі авёс не ўдаўся, а ўраджаі пшаніцы і ячменю былі даволі добрыя.

Ячмень трэба сеяць пазней, чым авёс, бо ён патрабуе больш сухой і лепш нагрэтай глебы.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ



Новы Беласток. Жыллёвы дом па Алеі 1 мая.

Фота: Аляксей Казёл

## Хворыя чакаюць на кроў

Кроў патрэбная. Нядаўна па заклiку Польскага чырвонага крыжа ў Беластоку сарганізавана выезды ў паасобныя паветы спецыяльнай брыгады Ваяводскай донарскай станцыі. Між іншым брыгада наведала Шматбранжавы кравецкі кааператыў у Гайнаўцы, бельскую рашарню і яечна-курынае прадпрыемства ў Бельску. Калектывы гэтых прадпрыемстваў актыўна сведчылі сваю кроў. Асабліва вызначыўся дырэктар яечна-курынага прадпрыемства ў Бельску Францішак Фурманоўскі, які апрача таго, што сам аддаў сваю кроў, змабілізаваў яшчэ 18 донараў.

Пахвалы заслугоўвае і ўчынак Марыі Альшанскай з Гайнаўкі, якая, даведаўшыся, што ў кравецкі кааператыў прыехала брыгада донарскай станцыі, хоць і не працуе там, прыйшла і запрапанавала сваю кроў. Яна сказала, што гэтым хоча сплаціць доўг удзячнасці (Марыя Альшанская ў свой час мела аперацыю і таксама патрабавала чужой крыві).

Калі да вас у вёску ці прадпрыемства завітае брыгада з донарскай станцыі, не адкажыце ў дапамозе. Цяжка хворыя чакаюць на вашу кроў.

# 100 член гуртка БГКТ



Анатоль Хурсовіч трымае 100-ы членскі білет.

Мілейчыцкі гурток Беларускага таварыства 18 сакавіка прыняў у свае рады 100-га члена. З'яўляецца ім старшыня сельскагаспадарчага гуртка, мясцовы дзеяч ЗСЛь, сябра Анатоль Хурсовіч. Такая вялікая колькасць членаў БГКТ у асадзе Мілейчыцы сведчыць аб росце аўтарытэту арганізацыі. Арганізатарская праца аддзела адносна росту БГКТ гаворыць і аб тым, што рэалізуе ён пастанову IV з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства адносна павелічэння колькасці членаў да 6 тысяч.

Сяргей Крэйза
Мілейчыцы

## Прыбытак замест страт

На ўвагу заслугоўвае прагрэс у сельскагаспадарчым гуртку ў Чыжах. Гурток гэты паводле разліку за 1963 год меў на сваім конце 11 тысяч страт, а ўжо ў 1964 годзе гэты ж самы гурток дапрацаваўся 19 тысяч прыбытку. Так вялікіх поспехаў гурток дабіўся праз паляпшэнне арганізацыі працы, якая была дзякуючы змене праўлення гуртка ў пачатку 1964 года. Новае праўленне на чале з прэзэсам Рыгорам Якімюком умела выправіць недахопы і хібы папярэдняга праўлення. (п)

# Хведар Рысь і Іван Лотыш

Астравок доўга лічыўся ўладамі белай плямай на Сакольшчыне (так называюць вёскі, у якіх няма ніводнай арганізацыі). Так было да 1963 года. Шудзялаўскі грамадскі камітэт ПАРП не раз абмяркоўваў гэтую справу і намагаўся сарганізаваць там партыйную арганізацыю. І дабіўся гэтага. 7 найлепшых людзей вёскі з'яўляюцца яе членамі. Найбольш актыўнасці ў жыцці вёскі праяўляюць зараз члены партыі Хведар Рысь і Іван Лотыш. Дзякуючы іх арганізатарскай працы арганізаваўся ў Астраўку сельскагаспадарчы гурток, які ўзначальваецца менавіта Хведарам Рысем. Ён таксама выконвае ў вёсцы і яшчэ адну важную функцыю — з'яўляецца солтысам. Зараз у Астраўку будуецца школа-помнік 1000-годдзя Польскай дзяржавы. З ініцыятывы партыйнай арганізацыі і пры арганізатарскай працы Хведара Рыся і Івана Лотыша (яны з'яўляюцца членамі камітэта будовы школы) жыхары вёскі ўлажылі грамадскай працы на суму 29 тыс. злотых.

Сцяпан Кузьма
Сакольскі павет




Цырата вельмі псуецца ад нашатырнага спірту і соды. Мыць яе трэба цёплай вадой з мылам, а затым, спаласнуўшы халоднай вадой, выцерці насуха мяккай анучкай.

# САНАЦЫЙНАЕ „ПРАВА" ДА АСВЕТЫ

Фармальна беручы санацыйная ўлада не забараняла беларусам вучыцца. Фактычна, аднак, даваенная асветная палітыка можа служыць наглядным прыкладам разыходжанняў паміж афіцыйнымі дэкларацыямі, а сапраўдным правам да асветы. Гэтая палітыка накіравана была не толькі супраць беларусаў, але супраць усяго беднага сялянства даваеннай Польшчы, у тым ліку і супраць сялянства польскай нацыянальнасці. Тагачасным буржуазійна - абшарніцкім уладам залежала на тым, каб сярод сялян было як найменш адукаваных людзей і каб як найменш сярод адукаваных людзей было сялянскіх сыноў.

З гэтай мэтай створана дзівосную асветную сістэму, якая ўведзена была ў 1932 годзе. Паводле гэтай сістэмы пачатковая школа мела тры арганізацыйныя ступені, з рознымі правамі для яе выпускнікоў.

Найбольш распаўсюджанай у вёсках была першая арганізацыйная ступень пачатковай школы. Абавязкам вучня было тут хадзіць у школу сем гадоў, але скончыць ён мог толькі чатыры класы. Праграма гэтай школы прадбачвала трэці клас для кожнага вучня як двухгадовы, чацвёрты — трохгадовы. Адным словам, вучань павінен быў тры гады падрад хадзіць у адзін — чацвёрты клас. Праграма навучання ў гэтых школах была значна ніжэйшай чымсьці ў вышэй сарганізаваных. Дзеці, якія скончылі яе, не мелі права ўступу ані да агульнаадукацыйнай, ні да прафесіянальнай сярэдняй школы, таму што да ўступных экзаменаў у гэтыя школы (т.зв. гімназіі) дапускаліся толькі дзеці, якія скончылі VI класаў пачатковай школы. Зразумела, што там, дзе была ўстаноўлена гэтая арганізацыйная ступень пачатковай школы, а ў нашых вёсках была яна амаль выключнай, дзеці не мелі аніякіх магчымасцей здабыцця сярэдняй адукацыі.

Паколькі асветная сістэма даваеннай Польшчы дыскрымінавала ўсё беднае сялянства, у адносінах да беларусаў тагачасныя ўлады прымянялі асаблівыя меры, падпарадкоўваючы асветную палітыку галоўнай сваёй мэце: паланізацыі беларускага насельніцтва.

Наколькі праблема паланізацыі займае ўвагу мясцовых улад сведчыць можа матэрыял Беластоцкага ваяводы Генрыка Асташэўскага высланы цэнтральным уладам у 1939 годзе. У матэрыяле гэтым аўтар расказвае свайму начальству аб цяжкасцях у паланізацыі насельніцтва ваяводства і шукае сродкаў, якія маглі б паланізацыю прыспешыць. Паводле ваяводы «вялікай перашкодай для польскай экспансіі з'яўляецца тое, што этнічна беларускае насельніцтва жыве ў кампактных групах, якія складаюць цэлыя вёскі, а нават і гміны». Спрыяе тымчасам паланізацыі, паводле ваяводы, беднасць беларускага насельніцтва, якая прымушае яго эміграваць у пошуках хлеба ў адлеглыя аколіцы і там паланізавацца. І ваявода Асташэўскі расказвае аб сваёй палітыцы абяднення беларускіх сялян, пазбаўлення іх зямлі, сцвярджаючы, што «аб палітычным выглядзе краіны вырашаюць заўсёды тыя, у чыіх руках знаходзіцца зямля».

Зразумела, што абяднелы, пазбаўлены неаднойчы сродкаў да жыцця селянін не мог нават марыць аб асвеце для сваіх дзяцей і канстытуцыйнае «права да асветы» было для яго проста насмешкаю.

Дыскрымінуючая I арганізацыйная ступень пачатковай школы была якраз той школай, якая найбольш адпавядала мэтам санацыйных улад. Мела яна з аднаго боку служыць паланізацыі беларускіх дзяцей, а з другога агранічыць гэтую асвету да элементарных уменняў пісання і чытання, не дапускаць іх да сярэдняй ці, тым больш, да вышэйшай асветы.

Нічога тады дзіўнага, што паводле дадзеных Брэсцкай асветнай куратарыі ў 1933/34 годзе на 4.602 вучняў сярэдніх школ у Беластоцкім ваяводстве было толькі 188 беларусаў у той час, калі беларускае насельніцтва складала каля адной пятай насельніцтва ўсяго ваяводства.

З паланізацыйнай палітыкай даваеннага ўрада несумяшчальнай была асвета на роднай беларускай мове і асвета такая, фактычна беручы, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства не існавала. Даваенная школа рабіла ўсё, каб пераканаць дзяцей у тым, што беларуская мова з'яўляецца мовай горшай ад польскай і выклікаць у іх пагарду да роднай мовы. Настаўнікі каралі вучняў, калі тыя карысталіся роднай мовай нават на перапынках, ці на школьным панадворку.

Такім чынам асветная палітыка падпарадкавана была генеральнай палітыцы санацыйнага ўрада захопу і паланізацыі ўсходніх земляў.

УЛ. ПАЎЛЮЧУК



Рысавае поле мае выгляд лесвіцы. (а-ся)

## НАВІНЫ ЭКРАНУ

### СТРАХ

Сенсацыйны фільм прадукцыі чэхаславацкай.

Каляш і Варга — працаўнікі бяспекі праводзяць следства ў справе замардавання маладога пражскага фатографа Кофаліка. У той самы час стаецца вядомым, што хтосьці ўжо забіў дзве іншыя асобы: школьнага сябра Кофаліка-Берта Пацэра і яго бацьку. Тут памагае працаўнікам бяспекі знойдзеная магнітафонная плёнка, у якой называецца прозвішча Кругера — былога працаўніка гестапа, які сёння знаходзіцца ў Заходнім Берліне.

Знаёмы забітага старога Пацэра — Гадраба — расказвае на следстве, як яны разам з Кофалікам забілі Берта па загаду незнаёмага ім агента, які даведаўся, што Берт Пацэр найграў на плёнку яго размову з бацькам. А гэтым незнаёмым агентам з'яўляецца Гехтэль — выкладчык тэхнікума, у якім вучыліся Берт і Кофалік. Кругер добра ведае акупацыйныя злачынствы Гехтэля і шантажуе яго. Да шпіёнскай сеткі апрача Гехтэля належалі таксама бацька Берта і Гадраба. У канцы аказваецца, што мікрафільмы знойдзеныя пры забітым Кофаліку з'яўляюцца бязвартаснымі. Такім чынам Заходнегерманскай разведцы і не ўдаецца нічога даведацца.

Фільм зроблены ў 1963 годзе.

Глядач.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Неданошаныя дзеці

Яны бываюць слабымі і трэба імі апекавацца больш, чым іншымі. Але дзеці такія ўжо да года — паўтара даганяюць сваіх равеснікаў ва ўсіх здольнасцях. Неданошаныя дзеці вырастаюць на паўнацэнных людзей. Неданоскамі былі: Ньютан, Дарвін, Вальтэр, Віктар Гюго.

### Што каму смакуе?

Не ва ўсіх народаў аднолькавыя смакі. У Лаосе (Азія) ядуць павукоў, чарвякоў, у Аўстраліі — мяса кенгуру, яшчарак, жаб, чарапах, вялікіх мурашак-тэрмітаў. Лапкі жаб вельмі смачныя французам. На далёкай паўночы ядуць сырую рыбу, водныя расліны.

Індзейскія плямёны ў Паўднёвай Амерыцы ядуць чарвякоў, мурашак і іх лічынкі.

Трэба сказаць, што ўсе гэтыя прадукты маюць аджыўчую вартасць і напэўна здаравейшыя ад свініны.



## СЁМЫ КАНТЫНЕНТ

На зямным шары ёсць шэсць кантынентаў (Еўропа, Азія, Афрыка, Амерыка, Аўстралія, Антарктыда). Акіяны — вобразна называем сёмым кантынентам. Цяпер сёмы кантынент — гэта цяжкая да рашэння задача.

Больш чым 70% зямной плошчы займае вада. Што ў ёй і пад ёю скрываецца — пакуль не вельмі вядома. Але пошукі вядуцца. Вучоным удалося дастаць стоўбік грунту з марскога дна на глыбіні 35 метраў. З яго можна чытаць гісторыю Зямлі, якой яна была некалькі мільёнаў год таму.



### А ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ЧАМУ МАРСКАЯ ВАДА САЛЁНАЯ?

У апошнія гады ўсё больш вучоныя лічаць, што Зямля ўзнікла з халодных пылавых частак, якія згусціліся. У частак наступаў радыёактыўны распад і таму Зямля напальвалася. У сярэдзіне з'явілася гарачая магма, якую вулканы выкідалі наверх. Разам з магмай выходзіла і вада, але салёная. Яна затапляла шчыліны.

Вучоныя адкрылі на дне Атлантычнага і Індыйскага акіянаў (яны злучаюцца з сабой) велізарны горны хрыбет і шчыліну, якія ідуць амаль праз усю Зямлю.

**Адкуль такая шчыліна?** Лічыцца, што Зямля ўвесь час расла (і цяпер расце). Таму кара яе трэскала, кускі сухой зямлі — кантыненты аддзяляліся ад сябе. Месца між імі займаў акіян.

### ЦІ МОРЫ БАГАТЫЯ?

У марской вадзе распушчаны мільёны тон золата, у дзесяткі разоў больш серабра і ўсіх іншых металаў. Падумайце, што было б, каб людзі навучыліся выдабываць з мора гэтыя багацці!

Нядаўна адкрыта, што ў марах ёсць гаручае, з якога можна атрымліваць тэрмаядзерную энергію. Акіян — гэта невычэрная крыніца багацця, задача ў тым, каб навучыцца яго выкарыстоўваць. (а-вл)

## У БІРМЕ

**Новы год у гэтай краіне святкуецца 16 красавіка. Насельніцтва захоўвае традыцыйныя звычаі, з гэтай нагоды — абліваецца вадой**

**На здымку: адна са сцэн на вуліцы сталіцы Бірмы — Рангуну ў час навагодніх урачыстасцей. (апр)**






Без трох мінут чатыры Дзяменцяў быў ужо перад дзвярыма ў дзевяты пакой, але вырашыў увайсці туды дакладна ў вызначаны яму час.

Побач яго ў дзевяты пакой увайшоў адзін з тых двух гестапаўцаў. Праз дзверы Дзяменцаў ясна пачуў, як гестапавец, увайшоўшы ў пакой, здзіўлена сказаў: «Ён прыйшоў!» Быццам халодным ветрам ударыла ў твар Дзяменцяву.

Дзверы прыадчыніліся.

— Капітана Рукерта просяць зайсці.

Дзяменцяў увайшоў. Апрача двух ужо знаёмых яму гестапаўцаў, у пакоі быў трэці. Усе яны з цікавасцю разглядалі Дзяменцява.

Урэшце загаварыў адзін з гестапаўцаў, якога Дзяменцяў ужо ведаў:

— Капітан Рукерт, дакумент, які вы нам прад'явілі выклікае падазрэнні. Хто вам яго выдаў?

— Начальнік аддзела па арганізацыі цывільнага тыла Герман Мельх.

— Якое дачыненне Мельх мог мець да пытанняў санітарнага стану транспарту?

— Гэтага я не ведаю.



Трэці гестапавец, які дагэтуль абыякава прыслухоўваўся да гутаркі, утаропіўся ў Дзяменцява вачыма.

— Калі вы трапілі ў Н.? — спытаў ён.

Дзяменцяў назваў дату.

— На якім участку фронта вам удалося праравацца да свіх?

— На ўчастку дывізіі «Гамбург». Суткі пасля гэтага я быў госцем намесніка начальніка штаба дывізіі маёра Борха.

— Цудоўна... — Гестапавец падыйшоў да тэлефона і набраў нумар. — Тут гаворыць Крамергоф. Мне тэрмінова патрэбна даведка па камандпаму складу дывізіі «Гамбург». Перш за ўсё — прозвішча намесніка начальніка дывізіі... Я чакаю...

Усе ў пакоі маўчалі. Дзяменцяў пакрыўджана ўсміхаўся. Ён дасканала ведаў, што зараз пачуе па тэлефону Крамергоф. Ён пачуе прозвішча, якое назваў Дзяменцяў.

— Так, я слухаю... Так. Дзякую...

Крамергоф палажыў трубку і вярнуўся ў сваё крэсла. Гестапавец, які сядзеў за сталом, спытаў:

— Чаго вы апынуліся ў горадзе Н.?

— Я прыйшоў у штаб прасіць назначэння на фронт. На жаль, назначэння гэтага не атрымаў. У штабе ўсім было не да мяне.

— Што вы рабілі потым?

— У аддзеле Мельха займаўся эвакуацыяй музея і бібліятэкі. Працаваў разам з упаўнаважаным гестапа Брандтам.

—Брандт? — здзівіўся Крамергоф і пераглянуўся з гестапаўцамі. — Гэта цікава! Калі вы апошні раз бачылі Брандта?

— У дзень, калі я эвакуіраваў фонды бібліятэкі. Ён прыняў ад мяне груз і павёз яго ў порт. Больш я яго не бачыў.

—Ці ж ваша праца ў Мельха на гэтым і заключалася? — спытаў Крамергоф.

— Вечарам Мельх выклікаў мяне, уручыў мне той самы дакумент, які выклікае ў вас падазрэнне, і сказаў, што раніцай ён мне вытлумачыць новыя абавязкі. А калі я раніцай прыйшоў, ужо не было ні Мельха, ні яго штаба.



— У час прарыву вашай дывізіі, вы ў рукі да рускіх не траплялі? — быстра спытаў Крамергоф.

— Калі б гэта здарылася, я б не сядзеў перад вамі.

— Адкажыце без «калі б»: былі вы ў палоне хоць адну гадзіну?

— Ні мінуты. Трапілі мы ў акружэнне ў раёне балот. Я з групай салдат выбраўся з балота і выйшаў у раён пазіцыі дывізіі «Гамбург». Ноччу з боем прарваліся да сваіх. Уцалела нас трое.

— Хто яны? Дзе яны цяпер?

— Ганс Рыхтэр, капраль. Ён застаўся ў дывізіі «Гамбург». Карл Ландрахт, лейтэнант, ранены, паложаны ў шпіталь пры штабе дывізіі «Гамбург». Трэці — я.

Крамергоф злосна рассмяяўся:

— Ах, якая дакладнасць! Вы ж дасканала ведаеце, што дывізія «Гамбург» ужо эвакуіравана адсюль, і таму не баіцеся праверкі.

Дзяменцяў пакрыўджана маўчаў.

— Слухайце, як вас там... Рукерт, ці як? Скажыце проста: хто вы на самай справе? — спытаў Крамергоф.

Дзяменцяў маўчаў.

— Мо' вы проста дэзерцір? — злосна крыкнуў Крамергоф.

Дзяменцяў упіўся ў Крамергофа лютым позіркам і загаварыў:

— Калі мой фюрэр уручаў мне ў Парыжы «жалезны крыж» я сказаў яму: «З вамі да канца!» Фюрэр сказаў: «Ісці трэба далёка...» І я пайшоў гэтым дальным шляхам, не абыходзіў цяжкасцей і не хаваўся ад вайны ў штабах. Больш я на вашы пытанні не адказваю. Рабіце са мной што хочаце. Хайль Гітлер!

У пакоі стала ціха. Дзяменцяў бачыў, што сваёй гнеўнай тырадай зрабіў на гестапаўцах уражанне.

Крамергоф узяў самаробны мандат Дзяменцява і ўжо спакойна сказаў:




## Удод і драч

Драч спяваў:
«Джар-р-жак! джар-р-жак!»
— Які з яго спявак!
Лепш бы перастаў! —
Сказаў Удод
І сам спяваць пачаў:
«Дод-дод! дод-дод!»

І чалавек бывае:
У іншых недахопы прыкмячае,
А восэ сваіх — не заўважае.

**Язэп Саўрыцкі**



Веснавы падлік.



Калі б наш цень не ўмеў хлусіць.



— Вы толькі непатрэбна траціце час, я жанаты.

## ВІНШАВАННЕ

— Віншую, — гаворыць санітарка радзільнага дома да шчаслівага бацькі. — Нарадзілася сёмая дачка.
— Можа хочаце сказаць — шостая?
— І шостая таксама.

## ВЯСНА ІДЗЕ

Вясна блізка, снягі пацеюць... Так, так, мілыя людзі, вясною ўсё пацее, а ветраны ваявода Паўднёва-Заходні Вецер ужо даносіць да нас веснавыя запахі.

Звярніце ўвагу на жывёлу, яна ляпей ад нас адчувае набліжэнне вясны. У кароў вочы затуманіліся бы ў дзяўчат пры першай патанцоўцы. Бык шляпае хвастом па сваіх баках і, калі б не кальцо ў носе, паказаў бы нам, на што здольны на парозе веснавых павеваў. Свінні заперліся перакінуць лычом карыта, ні то з шаленства, ні то для практыкі падкідаць усё, што напаткаюць на веснавым панадворку. Нават пеўні пачалі падзыгаць і куры несціся.

Першым сустракае вясну кот. Цёплую печку пераменьвае на халодны дах і начамі да таго хуліганіць, што перапалоханыя кошкі на розныя галасы спяваюць заходнія мелодыі. Бессаромныя каты даюць нядобры прыклад некаторым людзям і таму пад весну пачынаюцца часамі сямейныя сваркі і скандалы.

Пачуўшы вясну нават мышы менш гаспадараць па хаце, выбягаюць на свежае паветра дух перавесці ды пабачыць, ці не едзе ўжо прыгажуня — вясна ў зелені.

Вясковыя кавалі гудзяць, стукаюць, грахацяць папраўляючы розны інвентар для прычоскі матулі — зямлі.

Старыя спатыкаюцца ля платоў, дзеляцца ўражаннямі і ўспамінаюць мінулыя вёсны, калі былі маладымі і моцнымі. Леташняя зіма была слабавітая. Мы памятаем зімы моцныя, калі студні замярзалі і замярзала не адно гарачае каханне. А леташняя зіма непакоіць многіх людзей. А яшчэ, калі настане лета такое гнілое, не будзе радасці восенню. Зрэшты, няма чаго загадзя бедаваць, сябе марыць, бо пагода можа быць якраз найлепшая.

Сельскагаспадарчае выдавецтва выдала кніжачку пад назваю «Гарбузы». Магчыма, нездарма спяшаюць навучыць людзей садзіць гарбузы ў нашым клімаце. Зямля ў нас такая надзвычайная, што пасадзіўшы гарбузы вырасце бульба.

Увесну што не ўваткні ў зямлю, летам усё наверх вылазіць. Адзін дзед расказваў, што ў час веснавога ворыва згубіў люльку. Потым, калі касіў жыта, на тым месцы знайшоў пачку папяросаў.

Пашто аглядацца за чародамі дзікіх гусей ці журавамі, ляпей паглядзіце, як каля вас круціцца гаспадар — шпак. Вясна дае шпаку поўную дзюбу работы. І хаця стараецца ён як толькі зможа, ад ранку да вечара, ніяк не паспявае перарабіць усю работу.

Так ужо ёсць на свеце: хто працуе, той не гаруе.

*Дзядзька Лявон*

## ДЫРЭКТАР

— Ваша думка ў гэтай справе зусім фальшывая.
— Чаму, пане дырэктар?
— Таму, што не супадае з маёй.

## СЯРОД ПАЛЯЎНІЧЫХ

— Паляваў я ў Афрыцы на тыграў, — хваліўся адзін паляўнічы.
— Дык жа ў Афрыцы няма тыграў, — засупярэчыў іншы.
— Зусім правільна, — згадзіўся хвалько. — Я іх выбіў пагалоўна.

## ЛОГІКА

— Гэта немагчыма, — не згаджаўся певень, калі яму сказалі, што гадзіннік паказвае час дакладней за яго.
Доўга пераконвалі ўпартага.
— Добра, хай будзе па-вашаму, — згадзіўся ўрэшце, — але ці з гадзінніка можна зварыць булён.

## ПАМЫЛКА

Настаўніца да вучня:
— Чаму не мыешся дакладна? Па тваім твары магу адгадаць, што ты сёння еў на снеданне.
— Што?
— Яйка.
— Не адгадалі! Яйка я еў учора!

## ШАНЦ

65-гадовы багаты гандляр хоча жаніцца на аладой дзяўчыне і раіцца сябра:
— Як думаеш, калі б я ёй сказаў, што мне 55 год, узраслі б мае шанцы?
— Думаю, што меў бы ты найбольшыя шанцы, калі б сказаў, што табе 85 год.




**Выдатнага дурня нельга лічыць выдатнай з'явай.**







Стукнуліся...

## УСЯЧЫНА



Вясна, вясна...

## Ці хочаш быць вынаходцам?

**(Бясплатныя курсы)**

Занятак 3.
Разлажыце шэсць манет наступным чынам:






Адказ на заданне з папярэдняга нумару (Занятак 2).

Цяпер, пералажыўшы толькі адну манету, утварыце два рады па чатыры манеты ў кожным.

## З АБ'ЯЎ «ТАЙМСА»

Найбольш сур'ёзны англійскі дзённік «Таймс» (час) шмат месца (цэлую першую старонку) прысвячае на аб'явы сваіх чытачоў. **Вось некаторыя:**

«Джэнтэльмен 30-ці год, добра выхаваны, былы афіцэр марскога флота, пасля банкруцтва фірмы шукае працы, каб ажыццявіць свае імкненні ды паказаць спрыт і вопыт, што здабыў у час распаду фірмы. Цэлы свой талент аддае ў карысць **таго, хто** захоча даць працу».

«Дама, 50-ці год, бадзёрая, з чуллівым сэрцам дасканала варыць абеды і вядзе дом — шукае мужчыну адпаведнага ўзросту, каб два разы на **тыдзень** пайсці ў кіно».

«Свайго часу лонданскі мост быў заваліўся. Потым у 1824 годзе яго адбудавалі. Патомак былога мэра горада Лондан, лорда Гарата хоча пабачыць крайневугольны камень паложаны тады праз гэтага продка, але не можа яго (каменя) знайсці. Дзе знаходзіцца гэты камень?» (а-вр)

## АКЕНЦА ДУМАК

Хто рухаецца наперад у ведах, але адстае ў маралі, той больш ідзе назад, чым наперад.

**Арыстоцель**

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

Па просьбе **Люсі, Іркі і Галіны** з Беластоцкага павета, **Марысі Грэсь** з Плсчанікаў змяшчаем песню

## Ой, у полі пад ракітай

Ой, у полі, у полі пад ракітай,
Дзе клубіцца па начам туман.
Там ляжыць сырой зямлёй зарыты,
Малады, чырвоны партызан.

Я сама героя праводзіла
У шлях далёкі, дзе вайна гула.
Шаблю вострую яму дарыла,
Варанога коніка вяла.

Паў ён паміж травамі густымі,
Паў ён куляй скошаны ў баю.
За Саветы, за сваю радзіму
Ён злажыў галованьку сваю.

Ой, у полі, у полі пад ракітай,
Дзе клубіцца па начам туман.
Там ляжыць сырой сямлёй зарыты,
Малады, чырвоны партызан.

Ніва

Adres redakcji Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony red naczelny 25-89 centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458. Bltk C-3